Годъ III—1914. Студзень 19-я кніжка




## ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.



На выстауцэ насеньня у Вільні у лютым 1913 г. „Саха“ за стацьі аб насеньнях дастала

**СРЭБНУЮ МЭДАЛЬ.**

Падпісная цана на 1 год 1 р. 20 кап. на 6 месяцоу 60 кап., за перамену адрэсу 20 кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр.

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсца у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам 40 к., за тэкстам 20 к. За разсылку рэклям пры месячніку вагой да 2 лотоу 7 руб. ад тысячы

**Цэна асобнаго нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

Адрэс рэдакціі: Мінск Александроуская 25.

# МІНСКІ

# Сындыкат Сельскай Гаспадаркі

**аддзяленьня у ПІНСКУ і ОРШЫ.**

Прадаець: Плугі лепшых фабрык, годные для варункаў кожнай гаспадаркі, запасовые часьці плугаў заўсягды на складзе. Для селян добры плуг Сухені № 0 ад 4 р.; спранжыноўкі ад 18 р. 50 к.; чугунные прыводы на 2 кані з вялікім абаротам 64 руб. малатарня штыфтовая фабрыкі Вольскаго з Любліна 61 руб. 60 коп.; малатарня трыбовая Вольскаго за 57 р. 20 к; ветракі амэрыканскіе розные найтанейшые № 4 „Аўля“ 23 руб. 76 к.; сечкарні конные англійскіе маркі „С. Е. В.“ 52 руб. 80 к. сечкарня ручная на 2 нажы маркі „С. Р. Д.“ 15 руб.; вага дзесяцічная на 10 пуд. няштэмплеваная 13 руб. 20 кап.; парнікі для бульбы і буракоў на 2 1/2 пуды 33 руб 44 кап.; пасы для малатаркі с пянькі 7 кап. цаль; скураные—цэны розные; цэнтрафугі для малака ад 15 руб.; усякія начыньня для маслабойні; лятарні, вёдры; штучные гнаі, розные насеньня, лубін, сарадэля, віка, чырвоная і белая конюшына, цьвякі, напілкі, пілы для дроў, для лесапілак, ціскі і мяхі кавальскіе; усякая прылада для коней.

**Прэйскуранты высылаюцца на жаданьне.**

Мінск. Электро-Друкарня И. Нахумава,—тэл. № 524.

Мінск, электро-тип. Н. М. Нахумова.

Годъ II—1914. Студзень 19-я кніжка

# САХА

ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

# Пладазьмен.

## Праект № 1.

Мала хіба ўжо нойдзецца такіх гаспадароў, каторые не разумелі-б, што пры цяперашніх варунках гаспадаркі, каб мець лепшые ўраджаі і большые даходы, ратунак астаецца адзін: с старасьвецкай трохпалёўкі—перайсьці на пладазьмен *). Бо толькі разьбіўшы свае палеткі на пладазьмен, можна прытасаваць усе засевы да мейсцовых патрэб і налегаць на тую часьць гаспадаркі, якая можэ даваць лепшую карысьць. Беда толькі, што ня ўсім гэта лёгка зрабіць, бо тым, напрыклад, гаспадаром, каторые седзяць па вёсках на вузенькіх шнурочках, або маюць свае невялічкіе палеткі параскіданы маленькімі кавалачкамі паміж чужога поля—як кажуць—у шахаўніцы,—там рада трудная, пакуль самі гаспадары не зразумеюць сваей згубы і не разбяруцца с сваей зямлёй так, каб яе мець усю пад рукой—у вокал сябе т. е. пакуль не пяройдуць на хутары.

Іншая зусім справа ў такіх гаспадароў, каторые ўсё сваё поле маюць у адным кавалку. Чы маюць яны неколькі дзесяцін, чы неколькі валок зямлі,—і грэх, і сьмех, калі ешчэ яны трымаюцца, як сляпы плоту, старых, аджыўшых свой век спосабаў гаспадаркі.

Законаў—правілаў якіх колечы, які парадак павінен быць у пладазьмене, на колькі палеткаў дзяліць сваё поле—німа і быць ня можэ: ўсё залежэ ад мейсцовых варункаў—чым выгадней заняцца гаспадару у сваей ваколіцы.

Напрыклад, бліжэй провару, чы крахмальні—выгадней садзіць больш бульбы; бліжэй гораду—найкарысьней заняцца млечнай гаспадаркай; тады ўжо ў пладазьмене трэба больш налегаць на розные мешанкі, канюшыну, травы і т. п., каб было як найболей корму для кароў; бліжэй вакзалу—бывае выгадней налегчы на зерне, бо блізкая дастаўка і т. д. Адным словам, кожны гаспадар павінен сам добра разгледзіцца і абдумаць, а і з другімі не зашкодзе параіцца, чым лепш заняцца і паводлуг гэтаго, наладзіўшы свой пладазьмен, трымацца ўжо аднаго парадку.

Тутака я падаю праект пладазьмену, які ўжо быў сьперша

---

*) Што такое пладазьмен і дзеля чаго ён мае такое вялікае значэньне ў гаспадарцы, пісалося ў кніжцы „Саха“ № 18.

заведзены ў гэтым фальварку, каторы дастаўся пасьля ў мае рукі. Гэтаго самаго парадку трымаюся і я, ўважаючы яго за вельмі выгодны і карысны.

Такі самы пладазьмен бачыў я шмат дзе па вялікшых дварох, бачыў і па малых фальварках і ўсюды ён дае добры даход.

Адзін мой знаёмы, каторы сядзіць на двух валоках і завёў у сябе гэткі самі пладазьмен, мае ня горшые ўраджаі, як па найвялікшых і добра загаспадарэных дварох. Трымае ён 10—12 кароў, а мае з іх даходу больш 800 рублёў.

Пладазьмен, аб каторым я успамінаю, дзеліцца на восем палеткаў; парадак вядзецца гэткі, як паказана тут на табліцы.

| Палеткі | Перш. г. | 2-гі год. | 3-ці год. | 4-ты г. | 5-ты год. | 6-ты год. | 7-мы год. | 8-ы год. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Папар | Жыто на гнаі | Бульба | Ячмень с канюшынай | Канюшына на касьбу | Паша для скаціны | Жыто на поугнойку | Авес |
| 2 | Жыто на гнаі | Бульба | Ячмень с канюшынай | Канюшына на касьбу | Паша для скаціны | Жыто на поугнойку | Авес | Папар |
| 3 | Бульба | Ячмень с канюшынай | Канюшына на касьбу | Паша для скаціны | Жыто на поугнойку | Авес | Папар | Жыто на гнаі |
| 4 | Ячмень с канюшынай | Канюшына на касьбу | Паша для скаціны | Жыто на поугнойку | Авес | Папар | Жыто на гнаі | Бульба |
| 5 | Канюшына на касьбу | Паша для скаціны | Жыто на поугнойку | Авес | Папар | Жыто на гнаі | Бульба | Ячмень с канюшынай |
| 6 | Паша для скаціны | Жыто на поугнойку | Авес | Папар | Жыто на гнаі | Бульба | Ячмень с канюшынай | Канюшына на касьбу |
| 7 | Жыто на поугнойку | Авес | Папар | Жыто на гнаі | Бульба | Ячмень с канюшынай | Канюшына на касьбу | Паша для скаціны |
| 8 | Авес | Папар | Жыто на гнаі | Бульба | Ячмень с канюшынай | Канюшына на касьбу | Паша для скаціны | Жыто на поугнойку |

Тут ясна відаць якіе пасевы чарадуюцца адны за другімі праз усе восем гадоў.

**Палетак 1-ы.** *Папар.* Гэта леташняе аўсянішчэ, зааранае на зіму. С самай вясны скародзіцца адна дзесяціна, вывозіцца 50 параконных вазоў гною, ўсьлед заорываецца і сеецца ранная кошанка для кароў. Спусьціўшы тыдні со тры, гэтак сама засеваецца другая дзесяціна кошанкі. У палове, або ў канцы Мая, як толькі кончыцца аўсяная сеўба, ўвесь астаўшыся папар скародзіцца і завозіцца гноем (так сама па вазоў 50 параконных на дзесяціну), усьлед растрасаюць і заорываюць яго, бо інакш,—палежаўшы ня прыкрытым, страціў бы шмат сваей моцы. У гэтым часе сеецца ешчэ трэцьцяя дзесяціна кошанкі. Праз тыдні 3—4 заараны папар скародзіцца, а ў палавіне Ліпня—мешаецца. У першай-жэ палавіне Жнiўня сеецца жыто, лічучы па пудоў 10—11 на дзесяціну.

**Палетак 2-гі.** *Жыто на гнаі.* Сабраўшы жыто, аржонішчэ на зіму заорываецца. Толькі гэта работа не адкладаецца да познай восені, а рабіцца як можна найраней—зараз-жэ па зборцы снапоў. Бо трэба памятаваць, што на будучы год тут прыдзецца садзіць бульбу, дык трэба канешна як найраней заараць, каб ральля добра перапрэла.

**Палетак 3-ці.** *Бульба.* З вясны ральля добра скародзіцца, а дзе цьвярдзей—пушчаецца спранжыновая барана, а пасьля садзіцца бульба пад плуг.

**Палетак 4 ты.** *Ячмень.* На бульбяньні сеецца ячмень с канюшынай. На поўпуда чырвонай канюшыны дадаецца 10 фунтаў—белай і 10 фунт. цімафейкі. Гэткай мешанкі высеваецца па аднаму пуду на дзесяціну. Разсеваецца канюшына па забаранаваным ужо ячмені, а пасьля прыкрываецца лёганькай бараной, перэцягнуўшы ёй па аднаму толькі разу.

**Палетак 5-ты.** *Канюшына.* Першы ўкос канюшыны сушыцца на зіму. Адна палавіна другога ўкосу—атавы так сама сушыцца на зіму, а другая—косіцца на сьвежы зялёны корм для кароў.

**Палетак 6-ты.** *Паша для скаціны.* Да канца чэрвеня па канюшыне пасуцца каровы, а пасьля—заорываецца пад жыто. Робіцца гэта так. Перш-на-перш пушчаецца спранжыновая барана на 1—2 цалі глыбіні і пасьля кладзецца поўгнояк (25 параконных вазоў на дзесяціну) і заорываецца глыбакавата. Падраўшы сьперша цаліну спранжыновымі баронамі, заорываючы, скіба крышыцца бытцам мешань. Калі лето мокрае і зааранае поле пачынае зарастаць травой, то за нейкі тыдзень перад сяўбой трэба пераехаць ешчэ спранжыноўкай, але ўжо глыбей, чым першы раз, а пасьля сеецца так сама жыто, як і ў палетку 2-ім.

**Палетак 7-ы.** *Жыто на поўгнойку.* У восень аржонішчэ акуратна заорываецца.

**Палетак 8-ы.** *Авес.* Вясной, паскародзіўшы зімовую ральлю, падмешываецца і сеецца па пудоў 15 аўса на дзесяціну.

Кожны мой палетак мае па 10 дзясяцін зямлі. Апрача таго маю ешчэ тры валокі недаўна выкарчованай пасекі. Там—пакуль што—трохпалёўка вядзецца, бо гэты кавалак зямлі далёка, а да

таго, вядома, як сьвежая пасека—добра родзіць, абы толькі акуратна яе вырабіць.

Дойных кароў маю 31 штуку, маладзяжы—9 шт. і 13 коні. Каровы за млека і целяты даюць даходу тысячы тры ў год. Гэткі вялікі даход с кароў можна мець, разумеецца, толькі тады, калі акуратна іх дагледаць, а на гэта трэба мець так добра наладжэны пладазьмен, каб здўсёды ў волю было сытнаго корму.

Добрай сенажаці маю дзесяцін 10; усяго сена зьбіраю каля 4000 пудоў; блізка столькі-ж маю і канюшыны з 9-ці дзесяцін першаго ўкосу (10-ая дзесяціна канюшыны ідзе на раннейшы корм для кароў); атавы набіраецца каля 2000 пудоў; словам, усяго корму зьбіраецца каля 10 тысячаў пудоў. Дык корму ня вясну хапае, ажно пакуль добра не падымецца першагодняя канюшына, а тады адна дзесяціна яе назначаецца на касьбу для падкорму кароў, пакуль не падрасьце першая кошанка. Канюшына даецца два разы на дзень у хлеве, не зважаючы на тое, што і самую пашу маюць добрую, бо ходзяць па дрўгагодняй канюшыне. Пад канец Чэрвеня, калі канюшына заорываецца пад жыто, амаль ня ўсе сенажаці ўжо бываюць пакошэны і сабраны, дык кароў тады пушчаюць на лугі, а і то больш толькі дзеля таго, каб прайшлася, бытцам на шпацар, скацінка, чым пад'есьці, бо ў гэтым часе першая кошанка ўжо гатова і яе даецца скаціне ў аборы столькі, колькі каровы могуць з'есьці. Пакуль скончаць першую кошанку, падрасьце другая, а там і—трэцьцяя; а як скорміцца і гэта апошняя кошанка, ўжо гатова атава с канюшыны, пяць дзесяцін каторай, як гэта было пярвей сказана, ідзе так сама на корм для кароў.

Гэткім парадкам праз увесь час—ад вясны да самай восені—даецца каровам два разы на дзень у хлеве сытны зялёны корм, а пасьля ўжо памалу пераходзім на сухую кармешку. Зразу гэтаго рабіць нельга, бо гэта адбілася-б на здароўі, а значыцца і на ўдоі кароў. Каб гэтаму зараіць, сеіцца с поў дзесяціны конскаго зубу; сабраўшы яго ў восень, рэжэцца на сечку і на адну яго частку дабаўляецца дзьве часьці сухой сечкі с саломы і канюшыны, ды для паху крыху абсыпаецца вотрубамі. Гэткі корм даецца праз два тыдні; праз другіе два тыдні сухая сечка мешаецца на палавіну с сечкай с конскаго зубу; а пасьля яе дадаецца трэцьцюю часьць, потым—чацьвертую, а ўрэшце даецца ўжо адзін сухі корм.

Сьперша—дзень, другі каровы ня вельмі бяруцца да конскаго зубу, але пасьля, як уядуцца, толькі давай. Пры гэткай кармешцы млека ў кароў ня толькі ня ўбывае, але ешчэ прыбудзе.

Зімой даецца каровам рана і ў вечар сечка амаль не з аднэй канюшыны, да яе крыху дадаецца рэзанай сырой бульбы ў перамешку з буракамі і патроху абсыпаецца вотрубамі Трэцьці раз—дзянінай—даецца сена, або канюшынная атава. На 40 штук скаціны разсоліваецца ў вадзе 10 фунтаў солі і гэтым паліваецца сечка.

Вось толькі пры такім корме і даглёдзе кароў, можна мець праўдзівы і гэткі вялікі даход, аб якім успамінаў. Апрача таго, пры добрым корме скаціны будзе, разумееца, шмат і добраго гною, а як гною хапае, то і ўраджаі інакшые, а ўсё,—дзякуючы таму, што заведзены добры пладазьмен.

**29 Лістап. 1913 г.** **Антось Воук.**

**Ад рэдакціі.** Шкада, што аўтар стацьці нічога не успамінае аб гатунку зямлі, на якой заведзяны гэты пладазьмен.

Зважаючы толькі на тое, што адзін с палеткаў увесь засяецца ячменям, можна дагадывацца, што грунт вельмі добры. Ячмень—расьліна капрысная, і сеяць яго поўвалокі (маючы ўсей зямлі валокі 4) нават на добрым грунце і гнойным—рызыкоўна. Безпячней і пэўней сеяць больш аўса, асабліва пры цяперашніх цэнах на яго, а ячменю засеваць столькі, колькі патрэба на дамовы ўжытак.

Так сама аўтар нічога ня успамінае скуль бярэ насеньне канюшыны.

Цікаўна-б было ведаць што колечы больш і аб млечнай гаспадарцы: куды і якім спосабам ідзе збыт.

# Рыхтуйце насеньне!

## Як адбіраць насеньне збожа і прабаваць яго абходнасьць.

„Не тады сабак карміць, як на палеваньне ісьці"—не тады зьбіраць і агледаць насеньне, як надойдзе пара сеяць яго.

Добры і рупны гаспадар ужо цяпер—загадзя павінен абдумаць і падлічыць колькі і якога яму трэба прызапасіць зерня на насеньне, каб пасьля—ў рабочые дні не траціць дарагога часу на летаніну, дый ня перэплачываць лішніцы; бо вядомая рэч, што падчас сяўбы амаль не заўсёды цэна на збожэ ідзе ў гару.

І ня толькі важна ўзапасіць патрэбнае насеньне, але і ня менш важна зьвярнуць увагу, якое гэта насеньне. Не дарма бо кажуць, што „варона сокала ня ўродзе". Гэтак і з насеньнем: толькі добрае насеньне можэ даць добры ўраджай. Вось дзеля гэтаго зерне на насеньне павінно быць добра высьпеўшае, буйное, як найакуратней і найлепш ачышчэнае ад уселякаго зела і ня вырадзіўшаеся.

Вырадзіўшымся насеньнем называецца такое, каторае праз даўжэйшы час сеецца ў аднэй і тэй самай ваколіцы. Гэткае зерне нават пры добрай упашцы с часам дае што раз слабейшы ўраджай, а пасьля і зусім перэстае радзіць. Каб да гэтаго не дапусьціць, трэба канешна што колькі гадоў насеньне зьменяць,

загандлёвываючы яго або з дальшымі суседзямі, або купляючы так сама ў дальшых ваколіцах, ці дварох, а не—то, прадаўшы сваё зерне, купіць ў сельска-гаспадарскіх скл дах насеньня.

Калі-ж гаспадар пакідае зерне на насеньне сваё, то павінен пры малацьбе і арфаваньні асобна і адсыпаць яго, адбіраючы як найбуйнейшае, поўнае, цэлае і чыстае ад уселякіх траў і зела.

Найакуратней чысьціцца насеньне „Трыерам“, але гэта машына дарагавата каштуе, дык з бяды можна абыйсьціся і фухталем—„Трыумф“ с сітамі. Разгатунковываць збожэ трэба на тры раздзелы: перш —т. е. найлепшае зерне, каторае можэ ісьці або на насеньне або на продаж; другак—т. е. горшае зерне, або пасьлед—гэта можна браць для дамашняго ўжытку і ўрэшце—насеньне розных траў і зела.

Вось з гэтым зялом трэба быць вельмі асьцярожным Найлепш было-б яго спаліць, але дзеля таго, што гэтае зяло у гаспадарцы не раз бывае падмогай у корме для дамашняго птаства, можно яго і выкарыстаць, абы толькі ўмеючы. Перш—на—перш трэба ўсыпаць зяло (калі крыху будзе і с пяском-нічога ня шкодзе) ў моцна гарачую печ, каб добра высахло, пасьля змалоць і, добра запарыўшы варам, тады толькі даваць, як корм, птаству. Гарачая печ і вар губяць сілу расткоў у насеньні траў і зела—гэтых страшэнных ваўкоў нашых палеткаў. Нават гной с пад птаства, кормленаго зялом, дзеля бязпечнасьці лепш замест на поле—вывозіць на агароды дзе, калі і пакажэцца трава, яе ўсьлед, полючы варыво, вырвуць.

Ані важцеся толькі высыпаць насеньне зела у гной, бо яно там не пярэгніе, а вывезянае на поле разам з гноем,—абойдзе і заглушэ вашэ дабро. Так сама ніколі нельга высыпаць зела і зьмёткаў с току ў кучы на двор; то вецер паразганяе, то сам гаспадар за нагамі паразносе найгоршых ворагоў свайго збожа і пазасевае іх.

Але хоць бы сабе найакуратней было ачышчано і адабрано насеньне збожа, гэтаго ешчэ мала: трэба гаспадару перэканацца, чы добра яно абходнае, тады толькі будзе ён ведаць як сеяць—гусьцей, чы радзей, а ня кідаць зерне ў зямлю на сьлепака.

Каб зрабіць гэту пробу, трэба ўзяць с кучы збожа жменьку зернятак, адлічыць, ня выбіраючы, сто каліў, завязаць іх у шматку, ўлажыць у якую колечы каробачку і, засыпаўшы зямлёй, паставіць у цёплым мейсцы, напрыклад—за печкай, і час—ад—часу паліваць. Праз колькі дзён зерняты пачнуць пушчаць храсточкі. Развязаўшы шматку, адабраць і падлічыць зерняты с храсткамі, рэшту ешчэ паставіць на нейкі час у цяпле і падліваць, мо ешчэ каторые с паміж іх прыжывуць. Наастатак, падлічыўшы ўсе, будзем ведаць, колькі на сотку зернятаў будзе абходных і з гэтаго можна ўжо мяркаваць, чы насеньне добрае, і як яго сеяць.

На скорую руку пробу абходнасьці насеньня робяць ешчэ інаачэй, але яна не зусім акуратна паказывае, Адлічыўшы так

сама сто каліў зернятаў, кідаюць іх на іспадачак з вадой; абходные зерняты павінны ускорасьці выпусьціць над сабой бурбалкі.

Канюшыну прабуюць вось як: узяўшы шчыптачку насеньня канюшыны, насыпаюць яго на бляшку і падагрэваюць над агнём (можна над лямпай, чы сьвечкай); абходные зерняты будуць пырскаць—падскаківаць; пустые—ані скрануцца.

**М. Фалькоўскі.**

# Як вырабляць пасекі.

З году ў год бачым мы як што раз болей і болей таюць меншые і большые абшары лясоў Беларускага краю. На іх мейсцы прыбываюць і прыбываюць новые пасекі—новые землі—новые варштаты для будучых ураджаеў, ад каторых так многа залежэ нашэ эканамічнае багацьце. Як-жэ прыгатаўляем, як мы абходзімся з гэтымі будучымі нашымі сьвірнамі.?

А вось як. Ня толькі меншые ўласьнікі, каторые не маюць ані рабочай сілы, ані запасоваго капіталу, каб самім узяцца за вырабку пасекі; але нават і нашы абшарнікі заўсёды ахватней прыступаюць хоць што колечы ўзяць с пасекі, чым самім узяцца і дапільнаваць гэтай важнай работы. А каб пазбыцца гэтаго клопату, аддаюць свае новые пасекі селянам на снопшчыну; або ешчэ горш: выпушчаюць на колькі гадоў у арэнду таму самаму купцу, што купіў лес, а ўжо той—ад сябе раздае кавалкамі селянам гэтак сама на снопшчыну.

Што-ж з гэтаго выходзіць? Калі ешчэ селяне возмуць пасеку ад самаго ўласьніка, то хоць трэцьці сноп прывязуць у яго гумно; калі ж пасеку засеваюць ад купца, то і аднэй саломінкі ня прыбудзе гаспадару на падправу і бяз таго малагнойнай нашай гаспадаркі.

Апрача гэтаго, кожны арэндар, маючы права карыстаць з зямлі на пасяцэ толькі праз некалькі гадоў, разумеецца, стараецца пры як найменшай затраце часу і працы як мага найбольш выціснуць сабе карысьці.

Узяўшы кавалак пасекі, такі арэндар, чы снопшчык прагледае перш—на—перш, чы не заваляўся дзе які кавалак дрэва, каторага не дагледзіло ястрабінае купцово вока; забраўшы іх, абцярэбліваюць, выбіраючы, толькі таўсьцейшые сукі, а ўсе драбнейшые роўненька расьцілаюць па ўсей пасецэ так, каб нідзе ня было відаць голай зямлі. Як толькі ўвесь гэты навал надсохне, пушчаюць з ўсіх бакоў агонь. Гараць спачатку дробные галінкі, пасьля гараць насохшые лісточкі, шыльнік, урэшце займаецца верхні слой зямлі—гной, каторы тут—у лесе дзесяткамі, а можэ соткамі гадоў зьбіраўся і нарастаў. Чым старэйшая пасека, тым

даўжэй яна гарыць; асабліва, калі займецца гной, то курыць праз некалькі дзён, пакуль ня зьніштожэ на **новай** зямлі ўсё праз векі назьбіраўшаеся багацьце.

Што ж астаецца? А астаецца здаўна, праўда, ня чэпаная цаліна, пасыпаная попялам. І толькі. Шчасьце, калі грунт ешчэ сам па сабе добры, бо тады гэткая сьвежая цаліна дае ня кепскіе ўраджаі і праз даўжэйшы час; але калі грунт няцікаўны, баравы, пешчаны, словам такі, якіх найболей ў нас на Беларусі, то гэткім парадкам прырыхтованая пасека доўга не пацягне: праз некалькі гадоў яна выпалашчыцца, і карысьць з яе не вялікая, бо хоць попялу і шмат на ёй асталося, але, як вядома, ня толькі адзін попял патрэбны для ўселякай расьліны і замяніць ён таго гною, які спалілі на пасяцэ—ня зможэ.

Чаму-ж гэтак глумяць пасекі? А дзеля таго, каб менш было клопату, работы. На выпаленай пасецэ толькі дзе—ня—дзе прыходзіцца папоркаць крыху сахой, або падзёўбаць матыкай—на тых плехах, каторых слабавата праняў агонь, а то скрозь зерне сеецца павярху—па попяле. Такое зерене крыху паёрзаюць смыкам, і—ўсей работы. На другі год, а калі справяцца, то і ў восень, ярыну атсеваюць жытам на заараным у адну ральлю полі. Ворка ідзе ўжо шмат лягчэй, бо земля пад збожам пападапрэла.

Пры гэткай гаспадарцэ арэндару, чы снопшчыку ўраджаеў на сьвежай пасецэ на першые гады хопіць, а дальш—што яму за беда? Нехай той кукуе, хто пасьля яго будзе гаспадарыць.

Вось гэткім парадкам мы ўсе новые, сьвежые свае землі глумім, проста зьдзекуемся над німі, а пасьля—толькі нарэкаем на дрэнные часы, на слабые ўраджаі.

Як-жэ абходзіцца са сьвежымі пасекамі, каб усю сілу сьвежай і угноенай лесам зямлі захаваць на як найдаўжэйшы час?

Перш—на—перш трымацца старадаўнай праўды: „лепш менш зрабіць, але добра, чым шмат, ды абы як.“

Аддаючы новую пасеку на разработку даць хоць лепшые варункі арэндару, чы снопшчыку, але забараніць паліць яе. Калі ўласьнік сам бярэцца за работу, то так сама лепш меншы кавалак вырабіць, але агню ніколі ня пушчаць.

Выбраўшы і абцярабіўшы ўсе сукі і сучкі, якіе толькі хоць крыху згодны на апал (бо пара ўжо рахавацца з гэтым), дробные галінкі раскідаць па ўсей пасецэ і пачэкаць пакуль засохшые лісточкі і шыльнік не асыплюцца на зямлю. Пасьля, адзначыўшы кавалак пасекі такі, які змога будзе акуратна яго зрабіць, усе астаўшыеся на пасецэ галінкі зграбіць у кучкі і чы зусім зьвесьці іх на лугі і там, спаліўшы, разсыпаць роўненька попял, чы хоць бы папаліць іх (калі нехват часу і далёка вазіць) на гэтай самай пасецэ, але мяркуючы, каб агонь займаў як найменей мейсца,—каб на морг ня выпало больш 3—4 ламоў, на каторые трэба пазносіць усе меншые кучкі, а спаліўшы іх,—так сама попял трэба роўненька разсыпаць па полі.

Тады трэба зараз жэ—усьлед заараць, а дзе добра ня возьме саха, чы плуг—падправіць рыдлёўкай, чы матыкай, так сама матыкай трэба ababраць і каля самых пнёў.

Гэтак зрабленая пасека мо не дасьць праз першы—другі год такіх ураджаеў, як выпаленая, але за тое сіла яе ператрывае у 2—3 разы даўжэй, а самые лепшые ўраджаі пачнуцца с 3-го году, калі ўвесь верхні пласт добра перамешаецца з зямлёй і угніеецца.

Пасеку, каторую не спадзеіцёся усьлед заараць,—нельга і падбіраць (можна толькі выбраць сукі на апал), бо тады яна скора дзерванее і пасьля трудна будзе яе падняць, а пад навалам яна лепш напрэвае.

Дык ня глуміце дзеля лёгкай, малой і скора мінаючай нажывы сваіх новых зямель, сваіх новых сьвірнаў збожа!

**А. Вілецкі.**

---

## Пры якіх варунках сьвінаводство магло-б узбагачываць Беларускі край.

Вядомая рэч, што за апошніе гады наша гаспадарка ідзе шпарка наперад. Ніякіе прашкоды ня могуць стрымаць гэтаго разгону нашых хлебаробаў. Ня гледзючы на тое, што ў некаторых Беларускіх губэрніях толькі нідаўна заведзено земство, катарае павінно рупіцца аб агранамічнай помачы селянам; ня гледзючы на тое, што наша гаспадарка падмогі са стараны ні ад каго да астатніх часоў не атрымала,—наш район усё-ж такі займае адно с першых мейсц паміж сельско-гаспадарскіх районаў Расеі.

„Страшна прызнацца, але гэтак ёсьць, што сельско-гаспадарскіе патрэбы селянскаго грамадзянства ў Кіеўскай, чы Мінскай губэрніях мы ведаем менш, чым у губэрніях Іркуцкай, чы Янісейскай", гаварыў на першым агранамічным з'езьдзе—ў 1911 гаду прафэсар Фартунатаў. С таго часу прайшло больш 12-ці гадоў, а дзеля пазнаньня патрэб нашаго земляробнаго краю мала што зроблено, а калі аб нас дзе і гавараць, чы пішуць, то да нас гэта ня лёгка даходзе.

Наш беларускі район—агранам і вучоны А. Чэлінцоў прызнае, як район—**паро травопольны, многа клубнапленны, многа сьвінны, многа—скотны, мала—авечы.**

Новая гаспадарка, як пісалося ў № 13 „Сахі", павінна быць спэціальная, каторая мяркуецца з натурально-гістарычнымі варункамі нашаго краю.

„Новая гаспадарка—гэта гаспадарка спэціальная, каторая зямлю лічыць варштатам для вырабу як найболей, як найлепшаго, найдаражэйшаго і—колькі змога—аднастайнаго тавару".

Прыкладам гэтаму будзе вось які. Паміж нечэрназёмных губэрній найбольш распаўсюжэно сьвінаводство у Магілеўскай, Мінскай і Віленскай губэрніях. Тутака на тысячу душ жыхароў прыходзіцца 240 шт. сьвіней (для ўсей эўрапэйскай Расеі на 1000 душ—122 галовы сьвіньнеў). Як паказывае статыстыка іншых гасударстваў, сьвінаводство можэ тады толькі стацца важнай падмогай у даходах краю, калі на 1000 душ будзе прыходзіцца ня менш 300 штук сьвіньнеў.

Каб пашырыць сьвінаводство, трэба перш—на—перш (як гэта вядзецца у Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі) стварыць аграмадны запас патрэбнаго для гэтаго корму: бульбы і ячменю. Дзеля гэтаго культуру гэтых расьлінаў трэба на столькі палепшыць, каб ураджаі іх давалі у два, а нават у два с паловай разы больш, чым даюць цяпер; тады толькі кошт пуда корму паменшыцца і будзе лепшы рахунак заняцна імі, а сьвінаводство само сабой пашырыцца.

Так сама, разам с пашырэньнем млечных гаспадарак, зьбіранае малако будзе вялікай падмагай пры выкармцэ сьвіньнеў.

Яя пішэ прафэсар І. Шырокіх, выкармка сьвіньнеў можэ зладжыцца ў Беларусі, зважаючы на варункі, ў якіх знаходзіцца наша селянская гаспадарка, гэткім парадкам:

„летам—паша па канюшыне, а зімой—сьперша па крысе мяккіны (найлепш канюшынная. грэчная, або с сарадэлі) дзеля таго, каб сьвіньня прывыкла як можна болей травіць корму, а пасьля глаўная кормешка павінна быць бульба з ячнай вобсыпкай і як дадатак—рэшткі ад млечнай гаспадаркі„

Трэба добра памятаваць, што ні сьвінаводство, ні млечная гаспадарка ў нас не стане як належэ, пакуль ня будзе добра наладжэно палеводство сенажацеў (лугоў) і выганоў (пашы).

Пакуль-жэ будзем працаваць над паляпшэньнем нашаго палеводства, нам усё-ж такі трэба выясьніць пытаньне, які гатунак сьвіньнеў для нас найбольш падходзіць. Тутака, як часта і ў іншых пытаньнях мы стаім на фальшывым шляху. Больш за ўсё можэце спаткаць шмат самых даўнейшых дробных познадарадстаючых гатункаў сьвіньнеў; лепшые гаспадары бяруцца за гадоўлю чыстых англіцкіх гатункаў,—а сярэдзіны німа! Німа сыстэматычнаго прыспасабленьня да мейсцовых варункаў! Не варта адрэкацца ад паляпшэньня тутэйшаго гатунку сьвіньні, а асабліва там, дзе можна ешчэ знайсьці мяйсцовы, **тутэйшы гатунак** вялікай доўгавухай, а ешчэ лепш с сярожкамі, сьвіньні.

Хочучы гэты гатунак паправіць і разводзіць мешанцоў,— **карыстаць трэба не з англіцкіх, а с палепшаных нямецкіх, чы краонескіх сьвіньнеу**, як найбольш падхадзячых і блізкіх па крыві да нашых. Гэткую раду дае прафэсар Шырокіх у № 1 „Вѣстн. Жывотн.“

Трэба спадзевацца, што нашы аграномы, сьвядомые гаспадары, сельска-гаспадарскіе кружкі зьвернуць увагу на вялікае

значэньне пашырэньня сьвінаводства, а так сама і на паляпшэньне тутэйшаго гатунку сьвіньнеў. Дарога гэта хоць і дальшая, але пэўнейшая, трэба толькі не пашкадаваць часу і працы.

**Смаргонь.** **Вучоны аграном М. Б—н.**

---

# Гадоуля рыбы.

У прошлай—№ 18 кніжцы „Сахі", было апісана які можна мець даход з гадоўлі рыбы. Цяпер я хачу сказаць, як да гэтаго брацца.

Дзе толькі ёсьць жывая вада—хоць не вялічкая рэчка, чы крынічка, або сажалка, чы так падхадзячэе мейсцэ, дзе можна было б праз усё лето затрымаць ваду,—там скрозь надаецца пад гадоўлю рыбы, асабліва карпаў.

Сажалка для карпаў павінна быць зусім ня глыбокая: досыць выкапаць у зямлю на якіе поў аршына, а ешчэ лепей—цьверць аршына, ды зьверху—па берагох зрабіць насыпу стольki, каб усей глыбіні было на тры цьверткі арш.—то і годзе. Заставкі, кудэй напушчаецца і выпушчаецца вада, павінны мець пры сабе густые драцяные сеткі, каб у сажалку с карпамі не маглі забрацца такіе ваўкі, як акунь, а ешчэ горшы—шчупак, бо яны могуць усю моладзь карпаў вылавіць.

У сажалку вялічыні каля марга такіх карпаў, каб у восень маглі яны ісьці ўжо на продаж (значыцца—двулетак) можна пусьціць штук 300; карпоў гадовых—здатных да нэрасту—коп 10—15 (на тры капы самак—трэба пушчаць аднаго самца); самай-жэ дробязі—зарыбку ў такую сажалку можна пусьціць 75—100 коп.

Карміць карпаў надта лёгка і ня лішне каштоўна. Напарыць бульбы і, парасціскаўшы яе, кідаць у ваду; або буйна намалоць лубіну і гэтым карміць, мяркуючы на капу большай рыбіны па фунты два на дзень гэтай мешаніны.

Каб выгадней было карміць, найлепш зрабіць ад берагу доўгую над вадой кладку і стуль сыпаць па крысе корм два разы на дзень: а гадзіне 8-ай раніцы і так сама а 8-ай вечэра. Калі акуратна трымацца аднэй пары, то ўся рыба пад гэты час будзе зьбірацца каля таго мейсца, аткуль кідаецца кармешка. Зімой—карміць рыбы ня трэба, бо яна сьпіць, а на вясну, калі вада сагрэецца ўжо да градусоў 7-мі цепла, то пара пачынаць прыкормліваць.

Некаторые гадоўцы рыбы купляюць яе пад вясну, а ў восень усю прадаюць, а іншые,—завёўшы рыбу, прадаюць толькі частку яе, пакідаючы рэшту к налецьцю для большаго узросту, а крыху для расплоду.

Дык вось, хто маніцца трымаць у сябе рыбу праз зіму, павінен ешчэ выкапаць асобную для гэтаго сажалку. Такая сажалка можэ быць і не вялічкая, але канешна павінна мець аршыны тры глыбіні, і вылавіўшы ўсю рыбу з летніх сажалак, на зіму перэсадзіць яе у глыбейшую, каторую трэба пільнаваць, ачышчаючы праз зіму хоць часьць яе з лёду, бо інакш рыба бяз воздуху ўся пад лёдам задохнецца. Летніе сажалкі праз зіму вымерзаюць, праветрываюцца, а на вясну ізноў затрымліваецца вада і рыбу з зімовых сажалак перапушчаюць у летніе. Гады праз 2—3 з летніх сажалак трэба ваду спушчаць, вывятрыць іх, а дно павапнаваць.

Значыцца, хочучы заняцца большым гандлям рыбы, трэба мець у запасе некалькі сажалак: у адных будзе гадавацца рыба, другіе—будуць вятрэць.

Куплёную на гадоўлю рыбу трэба перавозіць у восень, або зімой, але ніколі нельга дастаўляць яе вясной, чы ў летку. У аднэй бочцы у 100—125-ці вядровай большай рыбы можна памясьціць пудоў 5—6; меншай—2—4 пуды. Вада ў бочцы павінна быць не са студні, а з рэчкі, або возера.

**П. М. Сабешынец.**

---

# Сад і Агарод.

## З маей практыкі.

Гадоў 19 таму назад я засадзіў адну дзесянціну зямлі ў мястэчку Смаргоні (Віленск. губ.) фруктовымі дрэвамі, ягаднымі кустамі, трускаўкамі і паміж усяго гэтаго засадзіў варыво.

Мне хацелася мець ня толькі добры даход с сваей зямлі і працы, але і пазнаць што можэ даць найбольшую карысьць у нашым краю земля, да каторай прыложаны ня толькі рукі, але і галава.

З маей практыкі за гэты час я праканаўся, што:

1) кожны гаспадар, каторы хочэ развесьці ў сябе сад, павінен добра сьперша разведаць па якой цане і якіе прадаюцца у бліжэйшых мястэчках і па вялікшых гарадох як фрукты, так ягады і варыво, а тады ўжо садзіць, ці сеяць тое, што выгадней.

У мяне найбольшы даход давалі:

**з варыва**: агуркі (Троцкіе), морква (Нантская Каратэль), буракі (чырвоные Егіпецкіе) і капуста (Грэцкая).

**з ягадау**: агрэст чырвоны, чырвоные парэчкі, чорная смародзіна і трускаўкі (Вікторыя).

**сліукі:** Прынц Эдінбурскі, Вікторыя і ранклёд Бодэрта.

**ігрушкі**: Малгажатка, Маскоўка і Зімоўка.

**яблыкі:** Зялёная наліўная (ранная), Антонаўка і Пэпін (васенніе) і Антонаўка—Камянічка (зімовая).

**вішні:** садзіў розныя гатункі, але карысьці мала было.

2) Садзіць розные ня тутэйшые навінкі яблыкоў і ігрушак—не варта, бо яны найчасьцей баяцца марозаў і вільгаці. Адна Бэра Слуцкая (зімовая) ў нас добра расьце, але яна пачынае няскора даваць даход—на 10—15 гаду, ды ігрушкі на ёй трымаюцца слаба, і вецяр без пары іх зьбівае.

3) Ня трэба квапіцца на паказные гатункі яблыкаў і ігрушак, бо яны рэдка даюць поўны ўраджай. Для прыкладу успомню яблыко—Апорт, аб ігрушку—Сапежанку. Самые іх дрэўцы добра і зграбна ў нас растуць і фрукты на погляд сьперша пекные бываюць, але баяцца вільготнай пагоды, дык часта трэскаюцца і плямеюць.

4) Садзіць яблыкі і ігрушкі трэба ня бліжэй адну ад другой як на 12 аршынаў (Наліўные яблыні можна садзіць на 8—9 арш., бо яны не вялічкі ростам) і ў шахматным парадку (як пяцёрка ў картах), а каб першые годы мець большы даход, можна садзіць паміж імі сліўкі, каторые праз гадоў 18—20, калі ўжо разрастуцца яблыні і ігрушкі, пасохнуць.

5) Пад сад трэба выбіраць найлепшую зямлю (пры гліне). Ня беда, калі зьверху пясок, абы толькі на поўаршына, чы аршын глыбіні была гліна.

6) У маладым садзе пакуль цень не вялік, варта сеяць варыво, чы бульбу садзіць, чы зерне сеяць; пасьля засадзіць агрэстам, парэчкамі і трускаўкамі, бо яны не так баяцца цені.

7) У першым гаду пасадкі дрэў, а калі можна—то і раней—трэба сад абсадзіць ад ветраў якімі колечы дрэвамі: пірамідальным топалем, ліпай, рабінай, клёнам і т. п.—што таней каштуе і лепш расьце. Лепш за ўсе абсадзіць пірамідальным топалем (на тры аршыны адзін ад другога) у першым раду, а у другім—рабінай. Пірамідальны топаль надта скора расьце і мала дае цені, бо не раскідае шырока сваіх сукоў, а з рабін можна мець шмат ягадоў, каторые зімой з вялікай карысьцю для сябе ласа ядуць куры.

Ад скаціны і зладзеяў трэба ешчэ абгарадзіць аполкамі, ды так, каб ня было шчэлін: тады зладзеі не бачаць, чы ёсьць вартаўнік у садзе. чы не і варажацца лесьці.

8) Зьбіраць фрукты трэба рукамі, а дзе нельга дастаць—вілачкамі (расчапіць на чатыры часьці зьверху галіну ляшчэвіны), а ня трэсьці, бо бітые яблыкі і ігрушкі скора гніюць.

9) На зіму дрэўцы трэба абвязываць кулявой саломай, каб вясной ня прыгрэвало моцна сонцэ і каб зайцы не паабгрызалі дрэўцаў.

10) Ня трэба аддаваць саду ў арэнду агулам, а прадаваць лепш ад пуда, бо ня толькі такім спосабам шмат болей грошэй выбярэцца, але і дрэвы не паглумяцца арэндарамі.

11) Позные яблыкі зьбіраць у палавіне, чы ў канцы верэсня

(сеньцября); класьці таўсьцінёй у поўаршына на ток у гумне, чы у другім якім колечы закрытым ад дажджу і сонца мейсцы; праз 10—15 дзён можна перанесьці іх у сухі склеп, чы так у якую будыніну, куды не дабярэцца мароз. Трэба ведаць, што найлепей лежаць яблыкі ў сухім, зімнаватым (3—4 градусоў цепла) цёмным мейсцы, дзе час—ад—часу можна было-б крыху яго праветрываць.

12) Каб даражэй прадаць яблыкі (кваскаватые, асабліва Антонаўкі)—іх можна марозіць. У гумне, чы на вышках якой колечы будыніны (абы ня цёплай) кладуцца ў поўаршына таўсьціні яблыкі і там яны лежаць праз усю зіму на продаж. Купляюць іх найболей у лютым месяцы, калі запас яблыкаў ужо не вялікі. Калі прыходзіцца пратрымаць іх пазьней, то трэба прыкрываць тоўста кулявой саломай, каб яны не аттаівалі. Гэткім спосабам у мяне марожаные яблыкі іншым разам далежывалі да палавіны красавіка (апрэля). Трэба толькі нагледаць, каб мышы і пацукі іх не паглумілі.

13) Хто задумае выпісаць дрэўцы з гандлёвай якой школкі, павінен канешна дапісаць, каб высылалі толькі тые дрэўцы, каторые паказаны ў пісьме, бо інакш гандляры маюць звычай заменяць па сваей волі другімі гатункамі, каторые ім выгадней спусьціць.

**Смаргонь.** **І. Сініцкі.**

---

**Дапіска**. Я выпісываў пірамідальные топалі і ліпкі (па 10 к. штука) і баярышнік (па 9 рубл. за тысячу шт.) ад графа Замойскаго (с Польшчы); па другіх мейсцах іх прадаюць шмат даражэй. Цаннікі аттуль высылаюць дарма, трэба толькі пасладь свой адрэс.

**І. С.**

---

# Матэр'ялы на будову.

## Дрэво.

Колькі ня прыдумываюць людзі разнаго матэр'ялу на будову, каб як найменш ужываць да гэтаго дрэва, ўсё-ж такі зусім без яго абыйсьціся ня могуць. У нас—на Беларусі ня толькі ў вёсках, але ў мястэчках, а нават у прыгарадах будыніны ставяць найболыш з аднаго дрэва. Дзеля гэтаго вельмі важная справа зьвярнуць увагу, як абходзіцца з гэтым матэр'ялам, як яго выбіраць, прыгатаўляць і т. п., каб быў ён як найлепш прытасаваны да патрэб і трываласьці нашых будынін.

Дрэвы нашых лясоў пекныя, сакавітые і прыдатны да ўсяго. Беда толькі ў тым, што нашы селяне ня ўмеюць як трэба выкарыстаць і шанаваць гэты матэр'ял,

Выбіраючы на пні дрэвы, трэба ўважаць, каб яны ня мелі расколін—„маразніц", каб ня было косых слояў, дупля і як найменш сукоў. Пазнаць чы здаровае, чы трухлявае ў сярэдзіне дрэво можна па гуку яго: здаровае дрэво, калі ўдарыць яго абухом, то як бы зьвініць, трухлявае—аддае глуха, быццам замершы гук. На хату трэба выбіраць такіе штукі, каб бярвеньні з ніх патрэбнай даўжыні мелі у водрубе ня менш 5 вяршкоў, і чым старэйшая дрэвясіна, тым крапчэйшае само дрэво.

Спушчаць дрэвы с пня можна толькі зімой, пакуль не крануцца сокі яго, бо тады пень мае ў сабе найменш саковітай вады. Да работы гэтай трэба прыступаць найлепш у ціхую пагоду, а з бяды—і падчас маленькага ветру, але ніколі нельга спушчаць дрэвы пры вялікім ветры, бо шмат можэ быць глуму, сам пень можэ лёгка рашчапіцца і немала папсаваць маладзяжы, калі дрэво зваліцца ня туды, куды трэба.

Спушчаючы дрэво, перш падсекаюць пень сякерай на трэцьцюю часьць таўсьціні яго с таго боку, куды большы нахіл самого дрэва, а пасьля з другога боку падпіловываюць рэзаком. Спанатрыўшы, што дрэво хінецца ня ў тую старану, куды трэба, каб яно лягло, ўжываюць да помачы падпоры і тады лягчэй пакіраваць пнём нават пры невялікім ветры.

Спусьціўшы пень, цярэбяць яго і вось тут трэба добра пільнавацца, каб каля сукоў не нарабіць насекаў, бо ад іх, як дрэво пачне высыхаць, пойдуць трэшчыны.

Абцярэбляное дрэво рэжуць на кавалкі такой даўжыні, якой вымагае будыніна. „Лепш перш дзесяць раз адмерыць, а раз адрэзаць", кажэ сцраведліва наша прыказка і тут уся штука майстра ў тым, каб кожны адрэзаны кавалачак, быў як найлепш выкарыстаны і прытасаваны да патрэб будовы.

Парэзаные кавалкі трэба высушыць, бо будавацца можна толькі с сухога дрэва. А сушыць яго ў нас, праўду кажучы, зусім ня ўмеюць. Ніколі нельга карыць зразу увесь кругляк, бо дрэво, высыхаючы раптоўна, шмат і глыбока трэскаецца. Кару найлепш зьнімаць кружкамі, меней—болей на поў аршына адзін ад другога і кружок с карой пакідаць с цьверць аршына шырыні.

Нельга дрэва класьці на зямлі, а трэба канешна даць на які поў аршына знізу падклады, тады толькі дрэво не пасінее, а будзе белое, здаровае.

З высушэных калодак рэжуць дошкі, палавічнікі, брусы. Пры пілоўцы трэба добра мяркаваць, каб як найменш ішло дрэва у глум.

Калі манімся рэзаць дошкі, то найвыгадней калодку апілаваць сьперша с чатырох бакоў, мяркуючы, каб аполкі ня пушчаць вельмі тоўстые, бо з ніх карысьць не вялікая.

Вырэзаючы палавічнікі, якіе часам патрэбны бываюць пры будове, напр. на падлогу, ўшакі і т. п., трэба мяркаваць так, каб с самай сярэдзіны кругляка выйшла хоць адна дошка.

Брусы на сьцены апіловываюцца с трох толькі бакоў, а чацьверты—каторы роўней—пакідаюць на паз. Часам брусы бывае выгадней абчэсаць, чым абрэзываць; гэто ўжо залежэ ад мейсцовых варункаў, як выгадней.

На бэлькі калодка апіловываецца з усіх чатырох бакоў. Што да бэляк, то вельмі важна ведаць і памятаваць, што найпрыгаднейшая і наймацнейшая бэлька будзе тады, калі мае яна чыстаго з абодвых бакоў 5 на 7 цалеў. Што такіе бэлькі найлепшые—даказана навукай і практыкай інжэнероў. Цікаўна тут успомніць, што аб гэтай меры для бэляк, відаць, здаўна ведалі будаўнічые, бо, напрыклад, у некаторых віленскіх касьцёлах, каторые прастаялі ўжо соткі гадоў, усе бэлькі пароблены пад адну меру—5 на 7.

Хату можна ставіць, як вядома, і с круглякоў, толькі трэба выбіраць калодкі як найраўнейшые і добра іх высушыць.

Латы лепш рэзаць с тоўстай штукі, чым чэсаць з жэрдзя.

Да будовы—найтрывалейшая сасна, але дзе на яе трудна, то старацца даць з яе хоць подрубы, а дальшые вянкі з бяды могуць быць і яловые.

**Тэхнік Ю—ка.**

---

# Розные рады.

## Важная работа ў садзе.

Цяпер—пад вясну, калі часта бываюць адлігі, а сьнег робіцца мяхкі, трэба яго утаптываць вокал дрэва, а дзе яго малавата, то і нагортываць. Пад сьнегам—на вясну не так скора адойдзе земля, дык дрэвы прыпозняцца зацьвісьці і гэткім парадкам могуць уцячы ад ранных вясновых прымарозкаў.

Каб затрымаць сьнег пад дрэвам ешчэ даўжэй, трэба поверх сьнегу палажыць гною.

---

**Редактар-Выдавец А. Уласоў.**

---

Виленское отдѣленіе

# Русско-Американская Линія

## Русскаго Восточно-Азіатскаго Пароходства



**ЕДИНСТВЕННОЕ**

**прямое сообщеніе**

**между**

**ЛИБАВОЙ и ГАЛИФАКСОМЪ**

**(КАНАДА)**

**безъ пересадокъ**

**10 дней пути.**

Русско-Американская Линія Русскаго Восточно-Азіатскаго Пароходства является единственнымъ Пароходствомъ, поддерживающимъ прямые безперасадочные рейсы между ЛИБАВОЙ и НЬЮ-ІОРКОМЪ и ГАЛИФАКСОМЪ (Канада) спеціально для этой линіи оборудованными пассажирскими параходами, которые кромѣ своей быстроходности, отличаются удобствомъ и комфортабельностью пассажирскихъ помѣщеній всѣхъ классовъ.

Переѣздъ изъ ЛИБАВЫ въ НЬЮ-ІОРКЪ или ГАЛИФАКСЪ совершается на первоклассныхъ почтово-пассажирскихъ двухвинтовыхъ параходахъ: „ЦАРЬ", „КУРСКЪ" „РОССІЯ" и „БИРМА" и продолжается около 10-ти дней.

Параходы отходятъ изъ Либавы регулярно каждыя двѣ недѣли по вторникамъ.

Относительно условій проѣзда и др. подробностей просимъ обращаться письменно или лично непосредственно въ наше Виленское Отдѣленіе, Вильна Конная улица, 4, у Острыхъ Воротъ телефонъ 10—63. Адресъ Главной Конторы: ЛИБАВА, Куркгаузскій пр. 2, Собственный домъ.

# „ЛУЧЫНКА“

Літэратурно-навуковы месячнік

## Беларускай Моладзі.

Выходзіць што месяц кніжкамі ад 32—48 страніц у кожнай. Падпісная цэна с перасылкай: на 1 год—2 руб.; на 6 м.—1 р.; на 3 м.— 50 к. Цэна асобнай кніжкі—15 кап.; с перасылкай—17 к.

**Падпіска прымаецца с кожнаго месяца.**

Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цану налажылі на першы высланы нумар.

Цэна абвестак за строчку пэтіту ў поўкалонны: перад тэкстам—40 кап.; пасьля тэксту—20 к. За разсылку рэклям пры месячніку вагой да 2 лотаў—7 рубл. ад тысячы.

Адрэс Рэдакціі: Мінск Александроўская вул. № 25.

Рэдактар—Выдавец **А. Уласоў.**

Хто выпісывае „Саху“ і „Лучынку“ разам—плаціць на год тры рублі.

Другая кніжка „ЛУЧЫНКІ“ выйдзе ў палове Лютаго.

---